Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

№ 7 Пятніца, 25 Ліпня 1924 г. Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць два разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 20 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр.; у тэксьце — 10 гр.; на апош. стар. — 5 гр.



## Няўдача рэконструкцыі ураду.

Дасюль яшчэ ня выясьнілася справа рэконструкцыі кабінэту п. Уладыслава Грабскага.

Вісіць у паветры адстаука Міністра Заграпічных Справау графа Замойскага, месца якога меуся заняць быушы прэзэс радыкальнае народнае польскае партыі „Вызвалене“ п. Станіслау Тугут.

Няпрынята яшчэ і адстаука Міністра Прасьветы п. Міклашэускага, на месца якога выступала кандыдатура брата цяперашняга прэм‘ер-міністра Грабскага — Станіслава.

Ня уходзячы у разгляд адпаведнасьці п. Тугута на пасаду міністра заграпічных справау, як такіх, якія нас датычаць агулам, мусім прызнаць, што кандыдатура п. Станіслава Грабскага у міністры прасьветы нічога ня суліла добрага беларускай школьнай справе.

Прынамсі, школьная палітыка гэткіх выдатных прадстаунікоу польскага нацыяналізму, як п. Грабскі Станіслау наурал ці дала-б нам што-нібудзь новае.

Даволі унікнуць у характарыстыку п. Ст. Грабскага з боку больш лібэральных польскіх кругоу, чымся нарадовая дэмократыя, да якой адносіцца п. С. Грабскі, каб зрабіць усе належныя вывады.

Характарызуючы будучага міністра Прасьветы „Kurjer Porannу“ зазначае, што п. Ст. Грабскі побач з п. Раманам Дмоускім зьяуляецца найгалоунейшаю, найбольш уплывоваю, наймацней дырыгуючай і найболей штандароваю фігураю нацыянальна-дэмократычнага абозу.

Брат цяперашняга прэм‘ера розьніцца ад яго тым, што зьяуляецца фанатыкам палітыкі як «мастацтва дзеля мастацтва».

Тэмпэрамэнт п. Ст. Грабскага у пачатку яго дзеяльнасьці, у маладыя гады кінуу яго у камуністычнае крыло соцыяль-дэмократыі. Разам з таварышкаю Розаю Люксэмбург ён кідау рукавіцу старому сьвету і гэта тлумачыць яго запал, з якім у старыя гады расьпісвау у апотэознай форме на шпальтах рэдагованага ім «Słowa Polskiego» італьянскі фашызм.

Констатуючы цяперашні нацыяналістычны сьветапагляд п. Станіслава Грабскага, лібэральная польская дэмократыя у «Kur. Por.» проста сьцьвярджае, што *„тэорыя нацыяналістычнае палітыкі, якая пропагуецца у кнігах і артыкулах п. Станіслава Грабскага заміняе нашыя* (польскія — Рэд.) *адносіны з чужымі нацыянальнасьцямі у істотнае пекла“*.

Да гэткае атэстацыі будучага Міністра Прасьветы, на абавязку якога ляжа правядзеньне у жыцьцё новага школьнага закону аб праве роднай мовы, дадаць абсолютна няма чаго.

Тэорэтык Рыскага міру, прызнаушы прынцыпіяльную незалежнасьць Беларусі і Украіны, меу-бы зацяжкую перад сабою задачу разьвязаньня беларускае і украінскае проблемау у межах Польшчы.

Пры сьцьверджанай здольнасьці мяняць палітычную афарбоуку свае натуры, хто ведае куды кінууся-б п. Ст. Грабскі цяпер пад старасьць.

Дзеля падходу да важнае школьнае рэформы патрэбна, на наш пагляд, асоба болей ураунаважаная, дэмократычная з найвыразьнейшымі азнакамі нацыянальнае цярпімасьці.

Тормазам, які затрымау п. Ст. Грабскага на дарозе да пасады Міністра Прасьветы зрабіуся яго колёга па апрацаваньню языковых законау п Тугут, партыя якога не дала згоды на супрацоуніцтва свайго дасюлешняга павадыра з крайнім нацыяналістам Ст. Грабскім у кабінэце міністрау. П. Ст. Тугут мусіу саусім выступіць з партыі.

А у праціуным выпадку, кандыдатура п. Ст. Грабскага у Міністры Прасьветы прайшла-б да свае мэты бяз ніякіх перашкодау.

Пакуль што, далейшы лёс кандыдатуры новага міністра прасьветы няясны і хацелася-б спадзявацца, што кірауніцтва важнаю для нас справаю Прасьветы ува усёй Польшчы пападзе у болей знаёмыя з тутэйшымі варункамі рукі.

А з гэтае прычыны нам ня прыходзіцца, пакуль што шкадаваць тае няудачы у задуманай п. Старшынёю Міністрау рэконструкцыі свайго кабінэту, якая ужо саусім яскрава аформілася.

---

## Палітычны агляд.

Агульная ўвага паранейшаму зьвернена на лёнданскую конфэрэнцыю. Дасюль яшчэ не дасягнена паразуменьне ні па адным з пытаньняў. Прынамсі ў парыскіх палітычных кругох глядзяць, пакуль што, досіць пэсымістычна на яе рэзультат. На конфэрэнцыі адразу адбылася спатычка двух пунктаў гледжаньня — францускага і ангельскага, саўсім процілежных, якіх дасюль яшчэ не ўдалося пагадзіць. Калі запануе ангельскі пункт гледжаньня, дык гэта будзе роўназначна нарушэньню Вэрсальскага Трактату і паслужыць прэцэдэнтам дзеля далейшых ухіленьняў ад яго выпаўненьня. Дзеля гэтага Францыя й стараецца да апошняе магчымасьці бараніць сваю пазыцыю. Пазытыўным рэзультатам конфэрэнцыі зьяўляецца тое, што асобаю, якая мае устанавіць, ці нарушыла Нямеччына плян Давіса, правядзеньнем у жыцьцё якога займаецца лёнданская конфэрэнцыя, назначаецца амэрыканскі гэнэральны дэлегат. Толькі пасьля яго опініі выносіць сваё рашэньне рэпарацыйная камісія, якая раней была галоўным рашаўным органам.

Побач з лёнданскаю конфэрэнцыяю дажывае свае апошнія дні і англа-савецкая конфэрэнцыя. Бальшавікі, каб дастаць пазычку ад ангельскіх капіталістаў, пайшлі на ўсе уступкі. Яны няпоўнасьцю, але прызнаюць даваенныя царскія даўгі і гатовы адшкадаваць ангельскіх грамадзян, маемасьць якіх загінула ў С. С Р. Р. пасьля бальшавіцкае рэвалюцыі. Але тыя варункі, якія прапануюць бальшавікі, далёка не здавальняюць ангельцаў. Бальшавікі прапануюць, як адшкадаваньне за забраную маемасьць, 10 мільёнаў фунтаў штэрлінгаў, альбо 100 мільёнаў рублёў, у той час, як ангельцы падалі пратэнсію на 180 мільёнаў фунтаў штэрлінгаў, г. зн. на 1,800 мільёнаў рублёў. Нарэшце, ангельскія прамыслоўцы зрабілі компромісную прапазыцыю, роўную 115 мільёнам фунт. штэрлінгаў, з якіх 20 мільёнаў павінны быць выплачаны зараз-жа, а рэшта ў 10 ратаў. Магчыма саўсім, што бальшавікі й на гэта згодзяцца, спадзяючыся адтрымаць пазычку, без якое яны ня могуць абыйсьціся з прычыны бязвыхаднага фінансава-эканамічнага палажэньня Саюзу Соцыялістычных Радавых Рэспублік. Там ізноў голад; на Волзе і Доне радавыя ўлады стрывожаны тым, каб забясьпечыць хлебам ахопленыя голадам раёны, з якіх насяленьне масамі ўцякае ў суседнія акругі, прадаючы забясцэн жывы й няжывы інвэнтар. Для Дзяржынскага новая работа; ён цяпер зьяўляецца прэзэсам эканамічнае рады. Ен распарадзіўся рэквізаваць хлеб у ураджайных мясцовасьцях дзеля раздачы яго галодным уцекачом.

З падзеяў за межамі Эўропы варта ад‘значыць Мароканскую вайну і паўстаньне ў Бразыліі. Мароко, як вядома зьяўляецца гішпанскаю колёніяю ў Афрыцы. Там заўсёды паўстаюць беспарадкі і гішпанскае войска часта церпіць паражэньні. Скарыстаўшы з няўдачаў гішпанскага войска ў Мароко, гішпанскія нацыяналісты год таму назад паўсталі пад кіраўніцтвам гэнэрала Прыма-дэ-Рывэры і зрабілі пераварот на ўзор фашыстаўскага ў Італіі. Прыма-дэ-Рывэра ўва ўсім коп’яваў італьянскага дыктатара Мусоліні. Ранейшыя міністры паўцякалі за граніцу, а хто з іх не пасьпеў гэтага зрабіць, дык быў арыштованы і засуджаны сядзець у вастрозе. Але цяпер фашызм аскандаліўся забойствам соцыялістычнага пасла Маттэотті ў Італіі, а побач з гэтым пачаў губляць ранейшы ўплыў і гішпанскі фашызм, асабліва пасьля перамогі левых на выбарах у Францыі. Апошнім часам навет была абвешчана амнэстыя ўсім палітычным засуджаным. Але наймацнейшы ўдар гішпанскаму фашызму наносіць апошняя ўдача мароканскіх паўстанцаў. Гішпанскае войска зноў разьбіта ў Афрыцы і адступае перад паўстаўшымі мясцовымі жыхарамі. Гэтая ўдача апошніх, быць можа, вырашыць лёс гішпанскага фашызму, дзеля якога няма грунту ў Эўропе.

У Бразыліі (Паўднёвая Амэрыка) рэвалюцыя ахапіла цэлы вокруг Сан-Паулё. Адбыўся рад страшэнных бітваў паміж рэвалюцыянэрамі і ўрадовым войскам. Але, нарэшце, ўрадовае войска пачынае браць верх.

I.

---

## Фінансавыя справы.

### Паступленьне дзяржаўных падаткаў у Ліпні.

Паводлуг часовага падлічэньня даходаў ад публічных данінаў і дзяржаўных манаполяў за першую дэкаду (10 дзён) бягучага ліпня месяца паступіла:

Зямельнага падатку 552.000 злотых; прамысловага падатку — 3.755.000 злотых; падаходнага падатку 1.184.000 злотых; падатку ад маемасьці 10.592.000 злотых.

Агулам непасрэдныя падаткі далі ў першыя 10 дзён Ліпня месяца

# Агляд прэсы.

Польская прэса, разглядае пытаньне аб нядачы прэм'ера Ул. Грабскага рэконструіраваць і парлямэнтарызаваць кабінэт, які цяпер істнуе, спосабам далучэньня у яго склад двух лепшых парлямэнтарыяу Станіслава Грабскага і Станіслава Тугута. Аб тым, як магла нарадзіцца такая думка у прэм'ера, газэта „Kurjer Poranny“ піша, што:

У прысутнасьці Ст. Грабскага, прэм'ер Ул. Грабскі зьвярнуўся да Тугута больш-менш з гэтакімі словамі: „Вы выпрацавалі і правялі праз Сойм, важны дзеля гаспадарства, закон аб нацыянальных меншасьцях. Трэба толькі яго правясьці ў жыцьце. Дзеля гэтага прапаную, каб мой брат, Ст. Грабскі, прыняўшы партфэль міністра асьветы, рэалізаваў закон у гаспадарстве; а Ст. Тугут, як міністар заграні́чных справаў, рэалізаваў-бы гэты закон заграніцай“.

Тугут папрасіў даць яму час надумацца, і аб гэтых прапановах зрабіў даклад клюбу „Wyzwolenie“, дзе таксама папрасіў часу, каб падумаць. Хутка пасьля гэтага Тугут выехаў на некалькі дзён на крэсы дзеля агляду вастрогаў. Ст. Тугут, разглядзеўшы сытуацыю, адмовіўся ад паста міністра заграні́чных справаў, таму што прэм'ер ўваход ў яго кабінэт зьвязвае з уваходам Ст. Грабскага, а сучасная праца з Ст. Грабскім лічыцца ў клюбе „Wyzwolenie“ як casus belli. Апроч таго, бяручы на ўвагу слабасьць здароўя і расход ў паглядах, датычна мэтадаў працы для гаспадарства, істнуючы між клюбам і Тугутам, апошні лічыць далейшую працу ў клюбе дарэмнаю і праз гэта пастанавіў выйсьці з клюбу.

З адмовай Тугута ад міністэрскага партфэлю касуецца і кандыдатура Ст. Грабскага. Па прычыне таго, што ўсялякія перагаворы прэм'ера Грабскага з Ст. Грабскім і Тугутам рабіліся ў старане ад міністраў заграні́чных справаў Замойскага і асьветы Міклашэўскага зусім бяз іх ведама, дык апошнія засталіся пакрыўджанымі і падаліся ў адстаўку. Прэм'ер, пакуль-што, адстаўкі ня прыняў.

З усіх польскіх партыяў, толькі P. P. S. увесь час была скэптычна настроена датычна падобнага пляну прэм'ера. Пасьля правалу гэтае справы прэм'ера „Robotnik“ у артыкуле пад загалоўкам „Partacki epizod“, між іншым, піша:

Партацтва рэконструкцыі крылася ў тым, што Ул. Грабскі хацеў узмацаваць свой кабінэт спосабам,—калі так можна сказаць,—хімічна сымболічным. Прэм'ер сказаў сабе: мой кабінэт пазапарлямэнтарны, што складае яго слабы бок. Дзеля таго, што ня можа быць мовы, з пагляду на уклад сіл у Сойме, аб утварэньні трывалае парлямэнцкае большасьці, дык падфарбую свой пазапарлямэнтарны кабінэт лёгкаю парлямэнтарнаю рошчынаю. Аднак-жа, каб ухіліцца ад парлямэнтарнага ўзварушэньня, якое магло-б давясьці да зваленьня кабінэту, зашчыкну свайму кабінэту парлямэнтарную эндэцкую дозу і адначасна вызваленскую проціатруту на яе.

Адразу выбяру прадстаўнікоў гэтых партыяў, дзьве найболып сымболічныя фігуры эндэцыі і Вызваленьня. Два Станіславы з двух канцоў Сойму, былі-б у гэтай комбінацыі ня толькі двама новымі міністрамі, але таксама й язычком парлямэнтарнае роўнавагі, абапёртае на дзьвюх дужых партыях па абодвух баках Ізбы.

## Далей газэта даказвае усю дарэмнасьць гэтае комбінацыі:

Памылка, зробленая Ул. Грабскім была дваякая. Ен памыляўся, думаючы, што адтрыманьне Тугута выратуе яго ад неабходнасьці прыцягнуць на свой бок „Вызваленьне“. Тугут, уваходзячы ў кабінэт не па даручэньню „Вызваленьня“, перастае быць прадстаўніком левае партыі ў гэтым кабінэце. Гэта зразумеў Тугут і ня прыняў міністэрскага портфэля проці опініі свае партыі.

А ў другім — памыліўся Грабскі, дапусьціўшы, што пэўная салідарнасьць, якая выявілася паміж Ст. Грабскім і Тугутам падчас апрацоўкі закону аб мовах, а таксама вартых жалю праяваў салідарнасьці паміж правіцай і „Вызваленьнем“ ў адносінах да рабочых і гарадзкога насяленьня,—хапае, каб сцэмэнтаваць яго будучы кабінэт на грунце агульна-дзяржаўных інтарэсаў...

Станіслаў Грабскі і Станіслаў Тугут былі-б можа у кабінэце п. Ул. Грабскага стражнікамі парлямэнцкае гармоніі, але ніколі ня былі-б *элемэнтам роўнавагі ува урадзе* (курсыў Rob.). А гэта, дзеля тае простае прычыны, што ня маюць супольнае палітычнае праграмы... Вазьмем хаця-б пытаньне аб нацыянальных меншасьцях. Тое, што было для Ст. Грабскага „maximum таго, што можа даць Польшча меншасьцям, тое для Тугута, і прынамсі для яго партыі, — пачаткам рэформаў ў гэтай галіне. І, нарэшце, закон аб мовах настолькі будзе цэнны, пакольні чэсна будзе праведзены ў жыцьцё. Але мы пераконаны, што Ст. Грабскі гэтае задачы ня выпаўніць...

## Не шкадуе у крытыцы дзеяньняў Грабскага і правая прэса. Пасол Стронскі у „Rzeczypospolitej“ піша:

Рэзультат варт жалю. Гэта азначае, што самая праца ў гэтым кірунку, хоць і натхнёная найлепшымі замерамі, была вельмі непрадглеџжанай і грубай. Трэба адкрыта заявіць, што праца была партацкая.

---

# У С. С. Р. Р.

### Безработцьце.

Ў „Правде“ (№ 156) даюцца цікавыя весткі аб становішчы рынку працы ў С. С. Р. Р. Газэта сьцьвярджае, што апошні час пытаньне аб безработцьці прыцягнула грамадзянскую ўвагу. На 1-га красавіка на біржах працы зарэестравана 1.369.000 чал. супроць 1.240.000 чал., што былі на 1 студня г. г. Гэткім чынам за першую чэцьверць с. г. агульны лік безработных павялічыўся на 10,4%. Калі даныя безработцьця разлажыць на адпаведныя складкі, дык выйдзе, што на прамысловых работнікаў выпадае 25,1%, на інтэлігэнцкія прафэсіі — 32,5% і на падзёншчыкаў — 25,6%. З ліку зарэестрованых безработных 42,1% зьяўляюцца сябрамі праф. саюзу.

Калі бліжэй падыйсьці да лічбы безработцьця—1.369.000 ч., дык у гэтым складзе зарэестрованай безработнай масы маем 20% асобаў, якія першы раз прапануюць сваю працу і у сэнсе дослоўным не зьяўляюцца безработнымі, г. зн. тымі, што засталіся без свайго працоўнага заробку з прычыны скарачаньня ці ліквідацыі прадпрыемства (установы). Скінуўшы з рахунку безработных гэтыя 20% адтрымаем у рэшце больш за 1.000.000 чал.

У працягу мацнейшага росту безработцьця (1923 г.) біржы ня здолелі стаць цалком строга пасрэдніцкімі органамі і ў рабоце біржаў дужа праводзіўся момэнт мэханічнай пасылкі на работы ў парадку запісаў і чаргі.

Разлажыўшы безработцьце па прычынах, адтрымаем гэткае палажэньне: ад скарачаньня штатаў і з прычыны ліквідаваньня прадпрыемстваў (установаў) 48,6% агульнага ліку усіх зарэестраваных, зволыненых па іншых прычынах—17,7%, па дэмобілізацыі з арміі і флёту—2,1%, тых, што першы раз прапануюць сваю працу — 21,4%, не працавала наймітамі апошнія 3 гады—10,2%.

---

— Гэй, ты, сівое бруха, давай на чарку... чуеш, зараз, бо ўсе пэйсы выдзяру!..

Адтрымаўшы ад аптэкара некалькі капеек, і выманіўшы гэткім чынам яшчэ патроху ў некалькіх паважнейшых перахожых, яна пайшла да „манапалькі“. На рагу пляцу, сярод каторага відаць і чуваць было шмат народу, што згрудзіўся каля гандлярскіх паветак, Стахурскую прыемна ўзьняла вясёлая мэлёдыя гармоніка; тонкія галасы заліхвацкага „казака“ ліліся і пераліваліся тонкай трэльлю; нечыя старанныя пальцы роўным тахтам адбівалі фразы матыву, зьвязаныя ў несканчальны круг, захапляўшы музыкальнае вуха; сумнасьць аднатоннай мэлёдыі перабівалася шалёнымі скокамі безнадзейнай роспачы, гулкім рэхам адбівалася ў вуху слухача, скоўваючы яго ўвагу. Настрой Стахурскай адразу быў зьменены гэтымі гукамі, зачапіўшымі яе кволую чуласьць. Уся яе істота захапілася і памкнулася навальнаю сілаю танца, засланіўшага перад ёю ўвесь сьвет; нічога ня відзячы, нічога ня цямячы, нэрвовым жэстам правай рукі ўхапіла яна за падол андарака, адносячы яго ўбок, а левую руку ўскінула над галавой, фігурна выгнуўшы распасьцёртую далонь, з каторай выпалі сабраныя грошы. Ногі самі сабой затопалі ў тахт гармоніка, нясучы яе на сярэдзіну пляцу, штораз бліжэй да натаўпу, скуль няслася падмываўшая музыка. Угледзіўшы Стахурскую, натоўп зарагатаў сьмехам, а гармонік шпарчэй зайграў.

— Брава, Стахурская! — крычэлі найбольш жаўнеры: — Ай, да, молодец... а ну, еще!.. — Стахурская як скрозь сон чула гудзеньне натаўпу, выробляючы штораз новыя фігуры нагамі і рукамі, распусьціўшы па ветры валасы і махаючы расшпіленай ватоўкай. Але вось, неўспадзеўкі, спынілася музыка. Стахурская застанавілася, перавяла дух і азірнулася. Куча жаўнярОў цесна стаяла гледзячы ў бок быўшага касьцёла, забранага пад царкву. Ад брамы касьцельнага муру шпарка йшоў праз пляц малады сьвяшчэньнік, памахваючы шырокімі рукавамі свае чорнае вопраткі. Зірнуўшы ў яго бок, Стахурская з мінюту стаяла нібы нешта ўцямліваючы, пасьля перавяла вочы на касьцёл і ізноў на сьвяшчэньніка; твар яе балюча скрывіўся, вочы гнеўна заблішчэлі, кулакі сьціснуліся;

— Га, касьцёлы адбіраць!.. крыкнула яна ўрэшце і, схапіўшы жменю мокрага сьнегу, кінула ім у сьвяшчэньніка; момэнт стаяла як акамянелая, пасьля заскрыгітаўшы зубамі і істэрычна крычачы, пасыпала ў яго бок няпрыстойнымі выразамі і пабегла за ім з паднятымі кулакамі...

V.

Прачхнулася Стахурская ў знаёмай каморы паліцэйскага вучастку, цеснай і цёмнай; зубы яе ляскалі ад сьцюжы, ногі скасьцянелі. Папраўіўшы валасы і завязаўшы хустку, яна ўстала і зачала стукаць у дзьверы. Праз мінюту пачулася цяжкае тупаньне ботаў, а за ім грук адчыняных засавак; адчыніліся дзьверы, кінуўшы слабы бляск ад лямпы ў цёмную камору.

— Ну што, праспалася? — з усьмехам запытаўся вялізны паліцэйскі, прапускаючы Стахурскую ў праход. — Будзеш ізноў сядзець за абразу духоўнаэ асобы... і вечна яна яго зачэпіць... ото паганскі характар... заўтра а дзесятай гадзіне, каб ізноў была тут. Моўчкі, патупіўшы вочы прайшла Стахурская напалову цёмны праход, прыходню і вышла з ганку на вуліцу. Была ўжо ноч; марозная, сьветлая ноч, аздобленая ледзяным хрусталём і полагам іскравага сьнегу; поўны месяц калыхаўся ў сінім прасторы, бліскуча адбіваючыся на паверхні абледзянелай вуліцы і памосту. Мароз трашчэў бярвеньнямі, і здавалася, хацеў скаваць самае паветра. Глыбокая ціша дадавала ўрачыстасьці гэтаму мёртваму хараству і будзіла ў Стахурскай пачуцьцё адзіноцтва, цісьнуўшага яе дух і думкі. Суровая сьцюжа лезла ёй у рукі і ногі, дадаючы шпаркасьці ходу; яна ня йшла, а бегла, сьлізгаючыся па абмёрзлых дошках памосту. Цяжкае ўражаньне мінулага дня камянём вісела на сэрцы, выклікаючы патрэбу забыцца хоць на мінюту, хоць на момэнт... Зямелька, ты, мая родная, раступіся ты пада мной і вазьмі мяне жывую...—прастагнала яна голасна... Ціскаючы рукі ў рукавы, яна часьценька ступала ў напрамку да карчмы, прыслухаючыся да ўласнага тупату, адзінага на ўсёй вуліцы... — Вось карчма... Ці дасьць напавер?..— мільганула ў галаве Стахурскай; прайшоўшы вароты і брудны, завалены сьмяцьцём, падворак, яна падыйшла да дзьвярэй карчмара і зачала стукаць, перш нясьмела, а пасьля ўсё мацней, пераступаючы з нагі на нагу ад марозу. Адчыніліся дзьверы і паказаўся знаёмы твар Соркі, абрамлены раскудланымі космамі.

*К.*

*(Канец будзе).*

